*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 28 (615)** **30 ЛІПЕНЯ 2003 г.**

## У наступным годзе на беларускіх таварах будуць абавязковыя беларускамоўныя цэннікі

*Дзякуючы намаганням ТБМ: яго звароту ў Канстытуцыйны Суд Беларусі ў новых дзяржаўных стандартах Беларусі, якія зацверджаны і ўведзены ў дзеянне з 12 ліпеня 2003 года (№ 30) з'явіўся запіс аб абавязковым ужыванні пры маркіроўцы тавараў дзяржаўнай беларускай мовы.*

*Сакратарыят ТБМ вельмі ўдзячны ўсім грамадзянам Беларусі, якія пісьмова, шляхам збору подпісаў надтрымалі нашую ініцыятыву, а таксама сп.сп. Кручкову, Станішэўскаму і іншым актывістам ТБМ, што на грамадскіх пачатках пераклалі тэксты стандартаў на беларускую мову.*

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**спадару А. А.Трусаву**
**220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Ваш зварот па пытанні адпаведнасці артыкулам 14 і 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь стандарту – СТ 1100-98 "Прадукты харчовыя. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні" і праекта стандарту – СТБ "Тавары нехарчовыя. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні" ўважліва разгледжаны.

Па меркаванню Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, інфармацыя для спажыўцоў (грамадзян), якая змяшчаецца ў пералічаных вышэй стандартах, павінна даводзіцца на рускай і беларускай мовах. Азначанае будзе садзейнічаць мэтам гарантаванага артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь роўнага дзяржаўнага статусу рускай і беларускай моў, а таксама забеспячэнню беларускамоўным спажыўцам такіх жа правоў, як і рускамоўным.

Выкладзеную вышэй пазіцыю па названым пытанні Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь паведаміў Камітэту па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь у сваім лісце ад 9 ліпеня 2003 г. № 05-08\309 для прыняцця неабходных мер па забеспячэнню правоў грамадзян.

З павагай
**Старшыня – Р. А. Васілевіч.**

## 26 ліпеня ў Лідзе адзначылі 10 гадоў з дня ўстаноўкі помніка беларускаму першадрукару Францішку Скарыну



**Сябры ТБМ каля помніка Францішку Скарыну ў Лідзе**

25 ліпеня 2003 года споўнілася 10 гадоў з дня ўстаноўкі ў Лідзе помніка беларускаму першадрукару, гуманісту і асветніку Францішку Скарыну. Недзе з паўгода сябры ТБМ звярталіся да гарадскіх чыноўнікаў з прапановай годна адсвяткаваць гэтую дату, аднак падтрымкі не знайшлі. У сувязі з гэтым Лідская гарадская арганізацыя пры дапамозе Лідскай арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" прыняла рашэнне самастойна арганізаваць святкаванне і накіравала заяву на правядзенне шэрагу мерапрыемстваў у Лідскі гарвыканкам.

Аднак зусім нечакана ўлады забаранілі ўрачысты сход перад помнікам Ф. Скарыну, а астатнія мерапрыемствы рэкамендавалі перанесці на верасень і правесці ў рамках Дня беларускага пісьменства і друку. У выніку дадатковых перамоваў было вырашана правядзіць 26 ліпеня ўскладанне кветак да помніка Ф. Скарыну і 27 ліпеня сустрэчу з пісьменніцай Вольгай Іпатавай, а ўрачысты сход і гістарычную канферэнцыю правадзіць у пачатку верасня.

У 12.00 26 ліпеня перад помнікам Скарыну сабралася каля двух дзесяткаў сяброў ТБМ, з лідскіх арганізацый, ветэранаў ТБМ-аўскага руху на Лідчыне, прыехаў старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў. Былі прадстаўнікі Горадні, Навагрудка.

Вянок ад ТБМ да помніка ўсклалі Міхась Мельнік, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у 1989-1997 гадах, адзін з ініцыятараў усталявання помніка і старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.

*(Працяг тэмы на ст. 3.)*

# Беларускія пісьменнікі на Лідчыне

27 ліпеня Ліду наведала група беларускіх пісьменнікаў: Вольга Іпатава, Эрнэст Ялугін, Міхась Скобла і Эдуард Акулін для сустрэчы з лідскімі аматарамі літаратуры. Ад Ліды ў сустрэчы разам з гасцямі прымаў удзел сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Станіслаў Суднік.

Сустрэча адбывалася ў гарадскім доме культуры і насіла вельмі цёплы і шчыры характар. Прысутныя маглі даведацца шмат цікавага пра творчасць пісьменнікаў, пакручасты лёс многіх твораў на шляху да чытача.

*(Працяг на ст. 3.)*



**На здымку злева направа: Пятро Макарэвіч, Эдуард Акулін, Алег Трусаў, Вольга Іпатава, Міхась Скобла, Ягор Фядзюшын, Эрнэст Ялугін.**

## Лідчына святкуе 140-я ўгодкі паўстання 1863 года




**Ускладанне кветак да помніка Валерыі Цехановіч.**

Ужо восьмы год на Лідчыне ў бліжэйшую да 27 ліпеня нядзелю святкуюцца ўгодкі паўстання 1863 года. Сёлета гэта былі ўгодкі 140-я, таму мерапрыемствы насілі больш шырокі характар.

У 9.00 былі ўскладзены кветкі да помніка ўдзельніцы паўстання 1863 года Валерыі Цехановіч.

Напярэдадні была праведзена частковая рэстаўрацыя помніка, быў заменены разбіты крыж на новы. Новы крыж ахвяравалы прадпрыемствам Рычарда Грушы.

*(Працяг на ст. 3.)*

№ 28 (615) 30 ЛІПЕНЯ 2003 г. Наша слова

# Што табе дае беларуская мова?

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

***Зміцер, эканаміст***

Што дае мне беларуская мова?

Першае адчуванне лучнасці – з мінулым і з будучыняй.

Мае дзяды, прадзеды размаўлялі па-беларуску, грэлі беларускія слоўкі на сваіх вуснах. Таму з маім родам, з мінулым мяне лучыць беларуская мова. І перарваць гэтую нітачку сувязі не маю права. Бо адчуваю адказнасць: перад продкамі і нашчадкамі. Разам з жонкаю перадаю гэтае знітаванне маленькай дачушцы. І я пэўны, што беларуская мова будзе жыць і ў далёкай будучыні, будзе развівацца згодна патрэбам часу і красавацьна гэтай зямлі. І вось сёння, тут – я з'яўляюся важным звяном, якое лучыць нашу мінуўшчыну і нашу будучыню. Адчуванне звяна, адказнага звяна, якое перадае нейкі духоўны код вельмі важнае.

Другое адчуванне лучнасці – з той зямлёй, на якой пашчасціла нарадзіцца і жыць - з Беларуссю. І гэта характэрна не толькі для этнічных беларусаў. Нярэдка можна сустрэць палякаў, расейцаў, татар, якія размаўляюць па-беларуску, і нават цудоўна. І вось калі ім задаеш пытанне: "Што гэта табе дае?" – адказваюць без ваганняў: "Дае адчуванне лучнасці з гэтай зямлёю"! Ну а калі такое адчуванне маюць тыя, хто прыехаў жыць на гэтую гасцінную зямлю, то мне, дзедзічу, чалавеку, продкі якога тут жылі спаконвеку, гэтае адчуванне лучнасці з Радзімай пагатоў грэе сэрца.

Трэцяе адчуванне лучнасці – з людзьмі, якія жывуць у гэтай краіне, у Беларусі. Прычым, не толькі з тымі, да прыкладу, трыццацю сямю адсоткамі жыхароў Беларусі, якія падчас апошняга (у 1999 годзе) перапісу насельніцтва сказалі, што яны размаўляюць дома па-беларуску. І нават не толькі з тымі васьмюдзесяццю шасцю адсоткамі беларусаў, якія назвалі сваю мову роднай. А і з многімі іншымі – ці не з усімі дзесяцю мільёнамі жыхароў Беларусі! Чаму? Таму што для мяне беларуская мова існуе не толькі ў літаратурным, выкрышталізаваным варыянце, але і ў асобных словах, гуках, інтанацыі, у адметнай пабудове фразы. Бо не сакрэт, што большасць насельніцтва Беларусі размаўляе гэтакім беларуска-расейскім вінегрэтам – трасянкаю. У звычайнай, бытавой размове я ўспрымаю трасянку абсалютна нармальна. І любое слова беларускае (вось тут, у Беларусі, а пагатоў дзесь за яе межамі пачутае – хай нават і не ў "чыстым" выглядзе) – яно для мяне вельмі блізкае, вельмі дарагое, шматкроць болей, чым самая дасканалая (калі можна гэтак сказаць), але чужая мова. Для мяне відавочна, што абсалютная большасць жыхароў Беларусі мае менавіта беларускі духоўны, унутраны свет, хай сабе пакуль які след не раскрыты. І рана ці позна ключык да гэтага свету падбярэцца! Маю шмат прыкладаў, калі людзі з шаблонна-казёнымі адносінамі да беларускай мовы раптам адчувалі ў сабе надзвычайную да яе прыхільнасць, прагу беларускага слова.

Вось чаму ў абсалютнай большасці выпадкаў, калі звяртаешся па-беларуску – сустракаеш вельмі станоўчую рэакцыю, рэакцыю лучнасці з боку тых, хто хай і не ўжывае беларускае літаратурнае слова, але мае беларускую душу.

Чацвёртае адчуванне лучнасці, якое дае мне беларуская мова – са Светам, з адукаванымі, культурнымі людзьмі іншых краінаў. З тымі ж палякамі, расейцамі, немцамі, ангельцамі,... Бо мы цікавыя свету не толькі сваімі таварамі, лепшымі тэхналогіямі, дасягненнямі навукі, але і сваёю мовай. Задумаемся: які сэнс іншаземцу ехаць у Беларусь вывучаць расейскую мову (яна тут нават не бытуе ў чыстым выглядзе), калі ёсць для гэтай мэты Расея – краіна, дзе тая мова фармавалася і развівалася? Які сэнс ехаць у Беларусь вывучаць тую ж польскую, нямецкую, кітайскую мовы. Ёсць жа для гэтай мэты Польшча, Нямеччына і Кітай! А вось беларуская мова для іншаземца – гэта таямніца, народжаная менавіта Беларуссю. І чалавеку грунтоўнаму, адкрытаму цікава спазнаць гэтую таямніцу зноў жа не ў Расеі, Польшчы, Нямеччыне ці Кітаі, а ў Беларусі – на зямлі, дзе гэтая мова выпеставалася. Бо: беларуская мова – гэта не толькі нашае багацце, гэта наш яркі ўнёсак у багатую і прыгожую мазаіку Свету.

Адначасна, беларуская мова абуджае цікавасць і павагу да іншага. Яна не раз'ядноўвае – наадварот, яна дапамагае паразуменню ва ўсе бакі, шматвектарнаму такому паразуменню, якое нараджае суладдзе, гармонію, змушае думаць больш глабальна і адкрыта. Хто валодае беларускай мовай, той без праблемаў чытае па-ўкраінску, лепей разумее па-польску, асэнсавана ўспрымае астатнія славянскія мовы, знаходзіць падставы да сумоўя з тымі, хто размаўляе па-нямецку, ці па-ангельску, па-летувіску ці па-латышску. Яно і не дзіўна? Беларуская мова – гэта еўрапейская мова, якая дужала ды кшталтавалася ў судакрананні ды ўзаемаўзбагачэнні з мовамі іншых еўрапейскіх народаў.

І яшчэ. Асабліва жадаю падкрэсліць, што мова беларуская дае адказнасць: за сваю краіну, за свой народ, за тое, што напрацавана продкамі потам і крывёю. То мусіш не падвесці іх, не быць горшым за іх.

***Не стала Ніны Іванаўны Гілевіч***



***Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" выказваюць шчырыя спачуванні Нілу Сымонавічу Гілевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам - смерцю жонкі Ніны Іванаўны.***

***Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай мовы БДУ Ніна Іванаўна сама па сабе была адданым прыхільнікам і нястомным прапагандыстам беларускай мовы, а побач з Нілам Сымонавічам, будучы яго апорай і яго святлом у Сусвеце, яна ў самыя неспрыяльныя часы несла сваю беларускасць, навечна застаючыся ў вершах паэта і сэрцах сваіх вучняў.***

***Спакой яе душы.***

***Саракавіны па Васілю Быкаву адбудуцца 31 ліпеня ў 16.00 ля магілы пісьменніка на Менскіх Усходніх могілках.***

# Што ты робіш для беларускай мовы?

***Сяргей, псіхолаг***

Думаць пра стан беларускай мовы, пра тое, што трэба дзеля яе штосьці рабіць я пачаў ужо гадоў трыццаць-трыццаць пяць таму. Я лічыў, што чым болей людзей размаўляе па-беларуску, ці, хаця б, чым болей людзей чуе, як я размаўляю, тым больш будзе карысці для беларускай мовы. Калі ты не ведаеш родную беларускую мову, які ты тады беларус? А размаўляеш – робіцца бачна, што ты ведаеш мову і шануеш яе, з'яўляецца станоўчы прыклад, узор для пераймання.

У 1971 годзе я пачаў выяўляць сябе ў гэтым кірунку: пісаў нейкія лісты у газеты па-беларуску, у якіх клапаціўся, каб беларусы мелі свае беларускае слова. Вось, напрыклад, у газеце "Літаратура і мастацтва" ў снежні 1971 года быў надрукаваны мой ліст пра тое, што трэба для беларусаў выдрукаваць такую бібліятэку, як "Скарбы роднай літаратуры", у якой сабраць лепшыя літаратурныя творы лепшых беларускіх аўтараў, пачынаючы ад Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Сімяёна Полацкага, Міколы Гусоўскага. Праз шмат гадоў гэтая мая прапанова пачала нібыта здзяйсняцца – у "залатой серыі" выдавецтва "Беларускі кнігазбор".

Як Вам вядома, я – лекар, псіхатэрапеўт. Слова – гэта мой інструмент, якім я гаю людзей. У 1992 годзе я пачаў друкаваць у газетах абвесткі вось такога зместу: "Псіхатарапія пры жыццёвых нягодах. Беларускамоўная. Бясплатная. Вы застаецеся ананімнымі. Папярэдні запіс..." Падаваў свой нумар тэлефона, па якім мяне знаходзілі беларускамоўныя людзі, і я правадзіў іхняе лекаванне менавіта на беларускай мове – гаючым родным словам.

Калі я размаўляю па-беларуску ў штодзённым жыцці, то тым самым "уцягваю" ў карыстаньне моваю і іншых.

Да таго ж я маю каля 20 публікацыяў у газетах ("Народная воля", "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "Наша слова") пра значэнне, пра псіхалагічнае ўздзеянне беларускай мовы.

Вось тое, што я рабіў ды планую надалей рабіць для нашай мовы.

А яшчэ я планую напісаць (безумоўна, па-беларуску) сваю біяграфію – летапіс пра беларуса, які жыў на мяжы тысячагоддзяў, дзе на фоне падзеяў свайго жыцця мяркую вылучыць такія тэматычныя раздзелы: "Я і свабода", "Я і ўлада", "Я і праца", "Я і мова", "Я і прырода", "Мэты жыцця" ды іншыя-прыкладна 20-30 раздзелаў, у якіх адлюстраваў бы свае стаўленне да сучасных праблемаў, да сваіх праблемаў, вядома. Да таго ж разам са сваім сябрам я распачаў работу над складаннем картатэкі беларускіх крылатых словаў і трапных выразаў, узятых з літаратурных крыніц (тое, што можна знайсці ў творах Ф. Скарыны, Л. Сапегі, С. Буднага, А. Міцкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, У. Караткевіча ды многіх іншых знакамітых беларусаў), з тым, каб пасля выдаць, магчыма, кнігу.

***Людміла, менеджар, спецыялістка па арганізацыі прамысловых выставаў***

Напэўна, самае большае, што я зрабіла для беларускай мовы, гэта тое, што я ёю авалодала, стала яе носьбітам, захавальніцай. На жаль, беларускай мовы я не ведала, не вучыла яе ў школе, не мела беларускамоўнага асяродка і першыя 40 год свайго жыцця так і пражыла, як расейскамоўная грамадзянка Беларусі. Калі ж Беларусь стала суверэннай дзяржавай, а беларуская мова – дзяржаўнай мовай нашай краіны, я вырашыла, што жадаю яе ведаць. Шлях быў вельмі складаны, але ўсё-такі гэты цуд адбыўся ў маім жыцці. Бо для мяне гэта сапраўды цуд: калі я чула, як людзі нязмушана размаўляюць па-беларуску, то зайздросціла ім, ніколі не думала, што сама буду гэтак свабодна гаварыць. Гэта была такая вяршыня, якую я, здавалася, ніколі не адолею. Тым, што ўсё ж адолела – ганаруся.

На працы ўсе ведаюць пра маю прыхільнасць да беларускай мовы, хоць я працую ў такой установе, дзе яна, да жалю, амаль не гучыць. У нас ёсць два супрацоўнікі, якія скончылі філалагічны факультэт БДУ, паводле адукацыі – настаўнікі беларускай мовы, але, калі яны спрабуюць гаварыць па-беларуску, слухаць іх проста немагчыма. А яшчэ лічыцца, што гэтая навучальная ўстанова дае добрую падрыхтоўку! Нават я, якая атрымлівала зусім далёкую ад беларускай філалогіі вышэйшую адукацыю, валодаю мовай лепш.

Цікаўлюся беларускай паэзіяй, можна сказаць, адкрыла яе для сябе, вельмі люблю беларускі фальклор і вывучаю яго. Хаджу ва ўніяцкую царкву. У нашай парафіі шмат моладзі, якая хацела б ведаць нашыя беларускія песні. Да жалю, на сёння ў нас людзі не ведаюць сваіх песняў, і калі дзесьці ў іншых краінах іх просяць заспяваць Сваю песню – не могуць гэтага зрабіць. Так здаралася і з нашай парафіяльнай моладдзю. Дык вось, я пагадзілася навучыць усіх ахвотных парафіянаў тым, прынамсі, 15-20 песням, якія ведаю сама. Бо гэта вельмі важна. Францішак Багушэвіч казаў: "Той люд жыве, хто свае песні мае".

Можа, ужо гады тры атрымліваецца, што я займаюся беларускімі паштоўкамі. Надыходзіць нейкае свята – Каляды, Новы год, 8 сакавіка – пачынаеш шукаць "днём з агнём" беларускія паштоўкі ў шапіках ды кнігарнях. Я неаднаразова пісала лісты або тэлефанавала ў нашае Міністэрства інфармацыі (тады было – Міністэрства друку), каб яны не забываліся пра беларускамоўныя паштоўкі. Рабіла гэта настойліва. Запісвала прозвішчы тых, з кім ужо размаўляла, адшуквала гэтых людзей наноў, нагадвала, і ў выніку да свята нешта такое выходзіла...

На працы ў нас уся дакументацыя ідзе па-расейску. Але летась я зрабіла адну паперу, якую мы дасылаем у шмат адрасоў – афіцыйны ліст-запрашэнне да ўдзелу з усёй інфармацыяй пра выставу – для беларускіх удзельнікаў па-беларуску. Разаслала яе прыкладна на 600 адрасоў. Праз нейкі час пайшлі тэлефанаванні: "Патлумачце, калі ласка, што гэта такое? Я не вельмі добра разумею беларускую мову, ці можна прыслаць па-расейску"? Я адказваю: "Ведаеце, я гэты ліст рыхтавала на трох мовах: па-беларуску, па-расейску і па-ангельску. Магу Вам даслаць расейскі варыянт, або нават па-ангельску, але там будуць зусім іншыя тарыфы: для беларусаў мы зрабілі зніжкі і вельмі значныя". "Тады не трэба, - кажуць, - хай будзе па-беларуску". І ўжо сёлета ніхто нічога не пытаецца – успрымаецца як належнае. Рэкламу выставы я таксама раблю па-беларуску. Надпісы на павільёнах – таксама. Калі выстава завяршаецца, мы ўзнагароджваем удзельнікаў. Мне рыхтуюць тэксты, а я іх перакладаю па-беларуску – усе тыя 40 дыпломаў, па ўсіх намінацыях. Сяджу з гэтым цэлы дзень, бо для мяне гэта вялікая праца, якую ніхто у нас болей зрабіць ня здолеў бы. Калегі нават не разумеюць, навошта гэта трэба, бо ім ад гэтага дадатковыя складанасці. Калі я зрабіла так упершыню, дык скажу я Вам: гэта была падзея! Цяпер ужо прывыклі, і хоць, можа, каму не падабаецца – нічога не кажуць. Ды і што тут можна казаць? Няма аргументаў, каб выступаць супраць.

Галоўнае ж тое, што я размаўляю з навакольнымі па-беларуску і імкнуся гэта рабіць так, каб гучала прыгожа і ўсім падабалася. Ужываю розныя нашы прымаўкі і прыказкі, цікавыя выразы. Нават калегі па працы ўсе іх вывучылі, часам, таксама карыстаюцца.

Думаецца ўсё ж такі, што гэтых нашы выслікаў мала. Трэба, каб дзяржава была на нашым баку, ці хаця б не замінала. Каб мы былі гаспадарамі сваёй зямлі, паўнавартаснымі грамадзянамі сваёй краіны. Без мовы гэта немагчыма.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

## 26 ліпеня ў Лідзе адзначылі 10 гадоў з дня ўстаноўкі помніка беларускаму першадрукару Францішку Скарыну

*(Заканч. Пач. на ст. 1.)*

Алег Трусаў у сваім звароце да лідзян падкрэсліў значэнне ўстаноўкі помніка Ф. Скарыну для Ліды і ўсёй Беларусі. Гэта першы помнік незалежнай Беларусі такога маштабу.

Як адзначалася, лідская гістарычная канферэнцыя перанесена на верасень, але лідскія краязнаўцы не маглі не скарыстацца з прысутнасці ў горадзе доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча і кандыдата гістарычных навук Алега Трусава. У 15.00 у Лідскім гістарычна-мастацкім музеі адбылася сустрэча лідзян з вядомымі гісторыкамі, якія кожны ў свой час вялі раскопкі ў Лідзе. Цікавасць выклікала паведамленне Алеся Краўцэвіча пра тое што падчас яго раскопак па-за межамі замка былі раскопаны драўляныя пабудовы пачатку 14-га стагоддзя, што яшчэ раз пацвярджае існаванне горада Ліды ў часы будаўніцтва Лідскага замка. Акрамя лідскіх краязнаўцаў на сустрэчы прысутнічала нават студэнтка Люблінскага універсітэта Польшчы.

*Яраслаў Грынкевіч.*



**Старшыня ТБМ Алег Трусаў і старшыня лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у 1993 годзе Міхась Мельнік ускладаюць вянок ад ТБМ да помніка Ф. Скарыну.**



**Алег Трусаў прамаўляе да сяброў ТБМ перад помнікам Ф. Скарыну.**



**Доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч і кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў на сустрэчы з лідзянамі.**

## Лідчына святкуе 140-я ўгодкі паўстання 1863 года

*(Працяг. Пачатак на ст. 1.)*

У 9.30 былі ўскладзены кветкі да магілы ксендза Адама Фалькоўскага, расстралянага царскімі карнікамі на гэтым жа месцы 24 чэрвеня 1863 года за абвяшчэнне Маніфесту паўстання.

У 15.00 адбылася штогадовая імша каля магілы паўстанцаў 1863 года на полі бою паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы.

Нягледзячы на тое, што гэтая імша даўно стала традыцыяй і праводзілася ўжо ў восьмы раз, Лідскія раённыя ўлады ўмудрыліся яе забараніць. Больш таго яны забаранілі белагрудскаму ксендзу, грамадзяніну Польшчы, служыць гэтую імшу.



**Ускладанне кветак да магілы кс. Адама Фалькоўскага.**



**Імша каля магілы паўстанцаў 1863 года паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна.**

Але, дзякуй Богу, у Беларусі ёсць горад Ліда, і імшу адслужыў ксёндз адной з лідскіх парафій (грамадзянін Беларусі).

На набажэнстве прысутнічалі старшыня ТБМ Алег Трусаў і беларускія пісьменнікі з Менска, а таксама прадстаўнікі СМІ.

У лідскіх раённых уладаў хапіла розуму не перашкаджаць людзям памаліцца за сваіх продкаў палеглых у паўстанні, дзякуючы якому, магчыма гэтыя чыноўнікі і сядзяць у сваіх мяккіх фатэлях у Лідзе, а не дзе-небудзь "во глубине сибирских руд".

*Яраслаў Грынкевіч.*

## Беларускія пісьменнікі на Лідчыне

*(Працяг. Пачатак на ст. 1.)*

Вольга Іпатава, якая і вяла сустрэчу зачытала адрывак з рамана "Залатая жрыца Ашвінаў, дзе апісваецца каранацыя Міндоўга ў Навагрудку і распавяла пра святкаванне 750-годдзя гэтай падзеі ў Літве.

Эрнэст Ялугін распавёў пра свой гістарычны раман "Мсціслаўцаў посах". Міхась Скобла пасля гумарных вершаў паведаміў што мітрапаліт Філарэт дабраславіў устаноўку помніка Ларысе Геніюш перад царквой у Зэльве. Эдуард Акулін выканаў некалькі сваіх песень.

Другая, няпланавая сустрэча ў пісьменнікаў адбылася з сялянамі Мохавіч і Малога Ольжава пасля імшы ў памяць паўстанцаў 1863 года. Ізноў гучала беларускае слова і беларуская песня. Але, мабыць не менш важна, што і самі пісьменнікі пабылі на гэтым святым месцы і твар у твар сустрэліся са сціплымі нашчадкамі герояў таго паўстання.

*Яраслаў Грынкевіч.*



**Выступае Эрнэст Ялугін.**



**Перад сялянамі спявае бард Эдуард Акулін.**

*Да 140-х угодкаў паўстання 1863 года*

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ**

# РЫЦАР СВАБОДЫ

## *Трагедыя ў дзвюх дзеях*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

***Каліноўскі.*** Грыгатовіч Юзэфа. Ад яе я пераехаў у дом Кяльчэўскай. Потым з'ехаў у Горадню. Вярнуўшыся зноў у Вільню, начаваў у Дзюлёрана, Малахоўскага, Сухадольскага, пасля наняў кватэру за касцёлам святога Пятра, адраса не памятаю, адтуль пераехаў у гатэль Пузіно, а затым і на апошнюю кватэру ў будынку цяперашняй гімназіі. Іншых мясцін для хованак я не меў і ніякіх знаёмстваў у Вільні ў мяне не было.

***Шалгуноў.*** Ваши вопросы, господа члены комиссии?

***Сямёнаў.*** Как часто вы выходили из дому?

***Каліноўскі.*** Выходзіў штодзень, бавіў час на прагулках, заходзіў абедаць у розныя гатэлі, апошнім часам харчаваўся ў Палянскага на Нямецкай вуліцы.

***Гогель.*** Выходит, вы не знали о розыскании вас полицией?

***Каліноўскі.*** Наадварот, выдатна ведаў.

***Гогель.*** И то правда, что вы любили прогулки у Дворца губернатора?

***Каліноўскі.*** А што тут незвычайнага? Затое я ў твар ведаў не толькі вышэйшых чыноў жандармерыі, але і многіх шпегаў, а з паліцмэстарам Вільні, як выхаваны чалавек, вітаўся лёгкім кіўком галавы, хоць ён мяне і не ведаў.

***Шалгуноў.*** Любопытно, это была бравада шляхтича или осознанная игра со смертью в кошки-мышки?

***Каліноўскі.*** Кіньце вы, палкоўнік. Я проста ведаў элементарнае — воўк ніколі не бярэ ахвяру каля сваёй бярлогі, а калі дакладней, то не ўяўляе яе паблізу бярлогі.

***Шалгуноў.*** И последний на сегодня вопрос, только откровенно: вы могли бы при встрече убить генерал-губернатора Муравьёва?

***Каліноўскі.*** Не. Гэту цяжкую работу ў нас выконвалі толькі кінжальшчыкі і толькі па прысуду Трыбунала. Індывідуальныя пазасудовыя расправы — не наш метад.

*Шалгуноў звоніць у званок. З'яўляецца Паліцмейстар і выводзіць Каліноўскага.*

***Шалгуноў.*** Ну и каковы ваши первые впечатления, господа, от первого мятежника?

***Гогель.*** Я, право, никогда не думал, что он будет так откровенен и покладист при всей своей ершистости: должности, приказы, инструкции, явочные квартиры, дюжина фамилий — добровольно, без угроз и насилия. А до встречи он мне представлялся матерым дьяволом-людоедом.

***Сямёнаў.*** Обычное явление — пришлось ответ держать и все на распашку, только успевай записывать. Похоже, ради спасения собственной шкуры заложит всех и вся. Отца родного не пожалеет.

***Гогель.*** Надеется, хлюпик, выскользнуть из петли благодаря чистосердечному признанию. Лепит даже про то, о чем его не спрашивают.

***Сямёнаў.*** Не обо всем он уж так лепит, но, думаю, что больших забот нашей комиссии не причинит.

***Гогель.*** Даже обидно как-то — замахнулись на ферзя, а он оказался...

***Шалгуноў.*** М-да... господа члены Особой комиссии!.. Я еще могу понять эйфорию юного артиллерийского поручика на поприще следователя по особо важным делам, но вы, штабс-капитан, бывалый начальник жандармской команды губернского города — и такая опрометчивая наивность. А перед нами, кстати, именно матерый, хитрый, образованный, изворотливый и, пожалуй, достаточно мужественный предводитель не бандитских шаек, как мы их именуем, а целой повстанческой армии, рассредоточенной по всему краю от Бреста–Гродно до Смоленска. И он скорее пойдет на плаху, чем выдаст нам что-то мало-мальски интересное, чего мы не знаем.

***Гогель.*** Позвольте, ваше благородие, но он уже на первом допросе назвал нам добрую дюжину своих соратников – и каких?!

***Шалгуноў.*** Мой юный друг, вы не владеете достаточной информацией о лицах, названных подследственным, и находитесь в добросовестном заблуждении. Преступник обаял вас перечнем только тех своих сообщников, которые еще в прошлом году нами пойманы, повешены, расстреляны, сосланы на каторжные работы в Сибирь или бесследно исчезли за рубежами России и Польши. И буквально ни одного лица, находящегося сегодня в разыскании он не назвал и, пожалуй, не назовет. Перед нами не ворона из мужиков, не "Ясько-гаспадар из-под Вильни", а нечто более просвещенное, благородное и мужественное. Думается мне, что его высокопревосходительству генерал-губернатору придется выбирать одно из двух: или затянуть следствие до четвертых календ, рассчитывая хоть на минимальные сведения, или пойти на неотложную и основную публичную казнь с целью быстрейшего замирения края посредством усекновения главной головы гидры революции. Уверяю вас, коллеги, — третьего не дано.

*Сцэна зацямняецца.*

### V

*Кабінет генерал-губернатора. Перад незадаволеным яго высокапрэвасхадзіцельствам палкоўнікі Шалгуноў і Лосеў стаяць навыцяжку, як шарагоўцы перад разгневаным фельдфебелем.*

***Мураўёў.*** Что значит – никаких надежд?! Что значит – уклоняется от ответов на вопросы?! Что значит – не помнит фамилий сообщников?! Я должен знать все без исключений... и не о нем! Плевать я хотел лично на него. И его должности, и его инструкции мне и без вас известны! Если он умалчивает о сообщниках и дурачит вас тем, что мы знаем, принудьте его назвать, изложить, раскрыть мотивы возмущения целого края. Я понимаю Польшу, но здесь же православная Северо-Западная Россия! Раскройте мне основания, повод к бунту, причины появившихся возможностей к взрыву гигантского масштаба, и опять же не в Польше, а здесь, на территории давно усмиренного и до недавних пор покорного быдла! Этого ждет от нас его императорское величество! Пропади бы они пропадом, в конце концов, все его соратники и помощники, если бы они не были мне нужны!.. Если бы именно этим не интересовался августейший монарх!..

***Лосеў*** *(перапыняе).* Клянусь вам — назовет!

***Мураўёў.*** Не клянитесь, полковник!.. Назовет он их или не назовет! В конце концов я и так загоню их если не на эшафот, так в Сибирь. Сети мои будут мелкоячеисты! Всех выужу, и ни одной даже мелкой рыбешке не удастся, ускользнуть в Европу. Но мне еще нужны методы их конспирации, структура революционных организаций, их штабы, центры, явки, печатни, редакции, практика подготовки профессиональных мятежников, связи с российскими революционными демократами, не говоря уже о польских, а теперь еще французских и английских. Империя, его императорское величество, мы, его опора и надежда, нуждаемся в науке побеждать непокорные народы нашей вотчины и дедины на основании практики благоприобретенной на Кавказе и здесь, в Польше и Северо-Западном крае. Или она не империя, а мы не ее опора!

Калиновский не только практик, но и теоретик революции. Ему удалось то, к чему призывал "Колокол" Герцена и Чернышевский с Добролюбовым. Нас спас только извечный российский шовинизм в отношении к народам окраинным и то, что наша чернь удержалась от великой смуты. Этот местный вождь-предводитель многое знает не понаслышке. И меня интересует его мнение о причинах возмущения в Северо-Западном крае, о польской проблеме, о причинах поражения обоих восстаний — сегодня мы уже можем говорить об этом, как о свершившемся факте. Мне интересны и необходимы соображения Калиновского на развитие событий в будущем. Разговорите его на эти темы хоть под протокол, хоть без протокола, хоть за чашкой кофе, хоть вырвите вместе с языком, но оставьте ему хотя бы столько сил и здоровья, что бы нам не нести его к виселице. Или вы его разговорите на означенные темы и сюжеты. или вы, господин Шелгунов не следователь по особо важным делам, а вы, господин Лосев, не жандармский штаб-офицер, а гувернантка!..

***Лосеў.*** Ваше высокопревосходительство, я помогу Павлу Никоноровичу. Калиновский кроме всего прочего назовет поименно даже тех, о ком сам никогда не слышал.

***Мураўёў*** *(саркастычна).* Будьте уж так любезны, Александр Михалыч. *(Жорстка.)* У меня нет времени отодвигать его казнь даже на полтары-две недели. *(Глядзіць на партрэт Аляксандра II.)* Его величество ждет и торопит. Они полагают, что смерть кумира черни содрогнет этот край до основания и приведет из лесу мужика с повинной, после чего в неограниченном количестве его необходимо будет спровадить в Сибирские рудники и копальни вместе с домочадцами.

Около сорока лет тому я замирил и преобразовал этот проклятый край будучи на службе августейшего монарха Николая I в качестве вице-губернатора в Витебске, а затем губернатора в Могилеве и Гродно. Я тогда предложил, а император издал ряд указов, которым на десятилетия перевернули вверх тормашками всю местную гражданскую жизнь. И белорусы стали забывать, кто и что они есть на самом деле. Я предложил императору закрыть Виленский университет, который был рассадником просвещенного национализма аборигенов, отменить на Белой Руси и в Литве действие Статута Великого княжества Литовского, Русского и Жамойтского 1588 года и подчинении белорусских и литовских земель юрисдикции общероссийских законов. Я упразднил Брестскую церковную унию, присоединив униатскую церковь к православной. При мне русский чиновник, русская школа и русский поп сделали здесь гораздо больше, чем суворовская пуля-дура и штык-молодец. В итоге аборигены почти забыли не только какого они роду-племени, но и свой идиотский диалект.

Я уже не молод, я почти стар и священный мой долг перед Россией и ее цесарем в том, чтобы теперь уже в последний раз через такое сито просеять относительно просвещенную часть населения этого опасного края, чтобы в нем не осталось и следа даже от маломальского проблеска национального духа и интеллигента вообще.

***Шалгуноў.*** Ваше высокопревосходительство, дорогой и высокочтимый наш покровитель и защитник, мы желаем вам долгая лета и исполнения всех ваших в высшей степени благородных намерений на благо нашего любимого, могучего и непобедимого Отечества!

***Лосеў.*** А мы свой долг исполним с честью!

***Мураўёў.*** Благодарю и надеюсь господа. *(Устае з-за стала.)* И вот еще что... К городскому полицмейстеру обратилась, как он сказал, некая вдова, дворянка Ядвига Мокрицкая, известная в Вильно филантропка, оказывающая свое сочувствие и посильное вспомоществование всякому, попавшему в беду человеку. Посулила полицмейстеру энную сумму денег, только бы он устроил ей протекцию на встречу или хотя бы на передачу несчастному смертнику Калиновскому пары чистого белья, мыла и прочее. Заикнулась и о желании свидания с арестованной Марией Ямонт. *(Лосеву.)* Вам ничего не говорит имя этой филантропки.

***Лосеў.*** Почему же не говорит. Ядвига Макрицкая действительно добрая душа и истая христианка, и интерес ее к смертнику Калиновскому был бы естественным, если бы она не доводилась родной сестрой матери Марии Ямонт — невесты Калиновского.

***Мураўёў.*** Вот как! Я, разумеется, не знал столь пикантных деталей, но посоветовал полицмейстеру, обеспечивающему охрану Калиновского, не только устроить свидание Мокрыцкой с арестантом, но и наладить переписку последнего с невестой. Вас же, Александр Михалыч, прошу создать невесте такие условия, известия о которых предельно бы угнетали или даже потрясли жениха.

***Лосеў.*** Понял, ваше высокопревосходительство!

***Мураўёў.*** С перепиской жениха и невесты я буду знакомить не только вас, Александр Михалыч, но и Особую следственную комиссию в лице уважаемого Павла Никоновича.

***Шалгуноў.*** Спасибо, ваше высокопревосходительство.

***Мураўёў.*** Что касаемо полицмейстера, он будет брать за свои услуги умеренную мзду, дабы прослыть в городе сочувствующим арестантам и привлечь к своей особе иных "филантропов". Следствию будет полезно, а полицмейстеру заработачно... Не правда ли?

***Лосеў*** *(у захапленні).* Гениально!..

*Заслона.*

*(Працяг у наступных нумарах.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 07. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 1900
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)